# БЕЛАРУСКАЯ ЗАРНІЦА






31

## *Да паважаных Айцоў Настояцеляў прыходаў, усяго пачэснага духавенства і паважанага грамадзянства.*

*Рэдакцыя часопісі «Беларуская Зарніца» зварочваецца да ўсяго пачэснага духавенства і паважанага грамадзянства з ветлівай просьбай аб дапамозе нам у справе пашырэньня «Беларускае Зарніцы» сярод Беларускага, а перадусім праваслаўнага, грамадзянства.*

*Гэта ні ад каго незалежны орган, які ўсебакова будзе высьвятляць царкоўнае, нацыянальнае, культурнае, гаспадарчае і палітычнае жыцьцё Беларускага народу з пункту гледжаньня рэлігіі.*

*«Беларуская Зарніца» цьвёрда стаіць на здаровым грунце Саборнасьці ў Царкве і неабходнасьці скліканьня Краявога Сабору Праваслаўнай Царквы ў Польшчы.*

Год выданьня 1. Цана нумару 40 гр.

# БЕЛАРУСКАЯ ЗАРНІЦА

Царкоўна-Народны двутыднёвік
Орган Праваслаўных Беларусоў.

| 1. кастрычніка 1928 году | Падпісная цана: за 1 месяц — 80 гр.; за 3 месяцы — 2 зл. 40 гр.; да канца году — 3 зл. | № 3 |
|---|---|---|

Адрэс рэдакцыі: Вільня, вул. Летняя № 7.



## Вучыся.

Вучыся, нябожа! Вучэньне паможа
Змагацца з нядоляй, з няволяй.
Што мучыць сягоньня, што думкі трывожа,—
Зьбяжыць і ня прыдзе ніколі.

Жаль згіне, як мара; ня будзеш няздарай,
Ні гдзе, і ні ў чым не заблудзіш.
Ты праўды ў няпраўдзе, як сонца між хмараў,
Спазнаеш, раз цёмны ня будзеш.

Такая прынука, як праца й навука
Ці-ж можа нам сіл не дадаці?
З такімі сябрамі, знай будзе ня штука
І гора сваё зваяваці!

Крыўдзіцеляў зможаш, сьлед вечны праложыш
І к долі, і к волі, і к славе.
Адно ты прачніся, вучыся як можаш
Ці дома, ці на школьнай лаве!

Янка Купала.

# Аб „крызісе“ у Хрысьціянстве.

У сучасную пару, калі хрысьціянская вера займае першае мейсца сярод рэлігіяў народаў, ідучых на чале чалавецтва, прынята нечаму лічыць, што кожнае ўхіленьне ад азначанай рэлігіі, кожная зьмена абрадавага боку культа, зьяўляецца нечым вельмі небясьпечным, пагражаючым хрысьціянству. Большасьць хрысьціянскіх прапаведнікаў даўно ўжо абвяшчаюць з амбону, што наступілі цяжкія дні, што бязбожжа сее спусташэньне ў душах хрысьціян, што сама вера хрысьціянская знаходзіцца ў вялікай небясьпецы, што мы перажываем пару крызісу хрысьціянства... Гэтым вывадам прапаведнікаў адпавядаюць і вывады прадстаўнікоў бязбожнай філёзофіі матэрыялістычнай: яшчэ ў сярэдзіне мінулага стагодзьдзя вядомы Давід Штраус у сваім творы „Старая і новая вера“ даў адной главе такі загаловок: „Ці мы хрысьціяне“? і даў на гэтае пытаньне адмоўны адказ. Яшчэ далей пайшоў яго сучасьнік Фэйербах, які прысьвяціў асобны твор („Сутнасьць хрысьціянства“) вырашэньню другога цікавага пытаньня: хто каго стварыў — Бог чалавека ці чалавек — Бога, і прышоў да выніку. што больш справядлівым зьяўляецца апошняе. Але бязумоўна ўсіх бязбожнікаў-філёзафаў XIX і XX стагодзьдзяў выперадзіў у сваім антырэлігійным пафасе наш сучасьнік Ян Папіні, які ў творы „Запіскі Госпада Бога“, творы блізкім да вольтэраўскага сарказму і лукіянаўскага астраумія, укладае ў вусны Бога такі выраз: „яны гэтыя сьмешныя веруючыя ў Мяне людзі, не разумеюць нават, якія яны дурныя, молячыся Мне яны пэўныя, што Я існую, і яны ня могуць прыпусьціць нават праціўлежнай думкі, ім і ў голаву ня прыходзіць, што ўзапраўднасьці дык Мяне і няма“ (цыцыруем з памяці. ня маючы твору Папіні пад рукой—але сэнс гэтага выразу з твору „Запіскі Госпада Бога“ пададзены правідлова). Здаецца ісьці далей у адмове рэлігіі, веры, Бога няма куды. І вось не праходзіць году ад часу выданьня гэтага твору—бачым Яна Папіні ў ліку прававерных каталіцкіх пралатаў, блізкіх да Ватыкану, а яшчэ праз два гады зьяўляецца яго выдатны твор: „Жыцьцё Ісуса Хрыста“, здаецца—храналягічна—апошняя біаграфія бажэсьцьвеннага Заснавацеля хрысьціянскай рэлігіі. Гэта значыць, што ўсё бязбожжа твораў Папіні першага пэрыяду было ні што іншае, як крык душы прагнучай сьвету і праўды, але шукаючай іх ня там дзе трэба... Хто памятуе захапляючую асобу Хілёна Хілёніда ў рамане Сенкевіча „Quo Vadis“, гэтага ганіцеля хрысьціян і насьмешніка над хрысьціянскай верай, які у крытычны для сябе момант, як-бы асьвяшчонны бажэсьцьвенным сьветам, называе сябе хрысьціянінам і гіне мучаніцкай сьмерцю разам з хрысьціянамі, той ацэніць усю сілу мастацкага гэнія Сенкевіча, які за 40 гадоў да падобнае-ж эвалюцыі пралата Папіні так мастацка прадставіў яго ўнутраную барацьбу ў асобе Хілёна Хілёніда.

Усе гэтыя прыклады, узятыя з гісторыі і бягучага жыцьця, яскрава сьведчаць аб адным: не хрысьціянства перажывае крызіс, не хрысьціянства паміраe, але мы, веруючыя хрысьціяне, часта перажываем унутраныя крызісы, зходзім у бок з правідловага шляху, забываем заветы Хрыста і блукаемся ў цемры нявер'я.

Хрысьціянства ня ёсьць абрадавая рэлігія. якімі былі ўсе паганскія рэлігіі і нават монотэістычны іудэізм. Сутнасьць хрысьціянства—выкупляючая ахвяра Сына Божага, якую мала зразумець, успрыняць катэхізычна; яе трэба адчуць сэрцам асьвячонным сьветам Божым (2 кар. IV, 6); перажыць душой, шукаючай Бога (Втор. IV, 29); узрадзіцца ў Хрысьце, уваскрэснуць з Хрыстом (Кал. III, 9), г. ё. унутрана перажыць вялікую ахвяру Хрыста, прыняць удзел у гэтай вялікай духоўнай ахвяры (I Пятр. II, 51). Гэта ёсьць тое „ахрыстаўленьне жыцьця“, якога шукаў Дастаеўскі і на падставе якога Н. Бярдзяеў кажа, што хрысьціянства нельга разумець статычна, што яно дынамічна па сваёй прыродзе (філёзофія сучаснага духу“, гл. II), што разьвіцьцё

хрысьціянства—сутнасьць адбываючайся на нашых вачох гісторыі царквы, што гэтае разьвіцьцё, гэтае імманэнтнае перажываньне ўнутранага вопыту жыцьця, як выражаецца вядомы расейскі рэлігійны вучоны, будзе цягнуцца да канца... вечна... да прыходу Царства Божага.

З гэтага пункту гледжаньня, а што ён зусім правідловы зразумела кожнаму веруючаму хрысьціяніну,—для Царквы Хрыстовай і для хрысьціянства, як веравучэньня зусім ня страшны ерасі і памылкі... Наадварот, як гэта ня дзіўна: ератычныя думкі мылячыхся лжэвучыцялёў, прагнучых запраўднае веры, абуджаюць да жыцьця думку дагматычную прымушаюць обудзіцца вучыцялёў царквы, дадаюць энэргіі аполёгэтам і служаць для паглыбленьня і дагматычнага разьвіцьця хрысьціянскага веравучэньня; аб гэтым сьведчыць гісторыя Сусьветных Сабораў, якімі аканчальна, на шмат стагодзьдзяў, выпрацавана дагматыка Хрысьціянства—а ведама, што кожны з сабораў зьбіраецца для барацьбы з чароднай ерасью. Аб тым-жа сьведчыць гісторыя рэфармацыі, а таксама ганеньне хрысьціянства ў Савецкай Расіі з боку „бязбожнікаў“: царква скінула з сябе кайданы дзяржаўнасьці і, звольненая, унутрана ўзмацнілася, а новыя мучанікі, як у эпоху рымскага ганеньня, толькі ўзмацнялі веру ў сэрцах хрысьціян.

Рожнымі шляхамі вядзе Гаспод чалавека да пазнаньня вялікіх тайнаў сваіх, Патаемны Яго шляхі — і часта тое, што здаецца ўжо згубаю, канцом Хрысьціянства і перамогаю паганства (першыя стагодзьдзі нашай эры, эпоха Нярона, Даміцыяна, Адрыяна), ці бязбожнай філёзофіі (XVIII в. Вольтэр, Руссо, Дзідро), ці позытывізм (Огюст Конт), ці матэр'ялізм (Бюхнэр, Фэйербах)—у запраўднасьці зьяўляецца толькі адным з шматлічных этапаў у данейшым разьвіцьці Хрысьціянства, калі адкідаюцца ад заўпраднага зярна Вучэньня тыя векавыя наросты, якія яго казяць і якія вырастаюць дзякуючы нявер'ю адных, ці злой волі іншых.

Мы і перажываем цяпер адну з такіх хвілінаў: старое—аджываецца, наноснае—уносіцца, але вечнае, сьвятое, запраўднае застаецца.

І ня нам судзіць, чаму такая воля Божая, бо „ня ў волі чалавека шлях яго, ня ў волі ідучага даваць напрамак нагам сваім“. (Прар. Ерам. X, 23).

**М. Чарнеўскі.**

---

# Царства Божае і царства кесара.

(Працяг, гл. №№ 1, 2).

Прымусова ня можна зьдзейсьніць Царства Божага. Ня толькі чалавек, але і Бог можа сказаць, што з прымусу мілым ня будзеш. Свабода чалавека патрэбна для Царства Божага. У гістарычных хрысьціянскіх тэакратыях, усходніх і заходніх, імпэратарскіх і папскіх, ня была яшчэ ў здавальняючай ступені выказана згоднасьць чалавека на зьдзейсьненьне Царства Божага. Тэакратыі мелі ўмоўны і сымбалічны характар. У гістарычнай плоці, у царстве кесара даюцца знакі. сымбалі, пячаці Царства Божага, але само Царства Божае не дасягаецца, рэальнае прасьвятленьне і перотварэньне ня прыходзіць. Царква толькі сымбалічна асвяшчае царскую ўладу, кладзе хрысьціянскую пячаць на дзяржаву і на ўсей быт чалавецтва ў гэтым сьвеце. Сьвяшчэннае царства кесара, хрысьціянскае гаспадарства, заставалась прыродным, натуральным царствам гэтага сьвету не прасьветленым, не пераінначаным, не перамогшы граху, старазаветна-паганскім, але як-бы скраплёным сьвятой вадой, у ідэі падпарадкаваным рэлігійнай мэце, поўным знакаў іншага сьвету, сымбалічных пароцтваў Царства Божага. Гістарычныя тэакратыі загінулі таму, што яны ня былі рэальнымі тэакратыямі, што ў іх не пертваралася жыцьцё, ня зьдзейсьнівалась Царства Божае. Прыйшоў час, калі імкненьне да рэалізму перамагло ўмоўную сымболіку тэакратыяў. У наступіўшай пасьля Кан-

станцінаўскай пары ў распаўшымся на дзьве паловы хрысьціянскім сьвеце ствараецца два рады тэакратыяў, — усходняя імпэратарская і заходняя, папская. Гэта — дзьве формы злучэньня Царства Божага з царствам кесара. Царства кесара робіцца сьвяшчэнным, тэакратычным царствам, ці праз прызнаньне імпэратарскай, царскай улады дэлегіраванай Богам, памазанай Царквою на царства, прадстаўляючай сьвяшчэннае, царкоўнае служэньне, ці праз прызнаньне папы, рымскага першасьвяшчэньніка, уладаючым сьвяшчэннай царскай, імпэратарскай уладай і крыніцай усякай улады на зямлі. Выключнае гаспадарственнае значэньне ўлады папы на Захадзе і выключнае царкоўнае значэньне імпэратара на Усходзе акрэсьліваліся асаблівасьцямі гістарычнага шляху Захаду і Усходу. Але адна і тая-ж ідэя рымскагапрыму совага ўнівэрсалізму, паганскага імпэрыялізму ляжала ў падставе заходняй і усходняй тэакратыі. У Візантыі тэакратыя прыняла ў сябе традыцыі ня толькі рымскага імпэрыялізмуі але і імпэрыялізму ўсходняга. Па ідэі сваёй тэакратыя заўсёды ўнівэрсальна, нацыянальная тэакратыя зьяўляецца супярэчнасьцю самой сабе. Імпэратар з сьвяшчэннай уладай так сама адзіны, як і папа. Сярэднявечча ведала гэта і стварыла ідэю міравой сьвяшчэннай рымскай імпэрыі. Новыя часы стварылі нацыянальныя гаспадарствы і гэтым разбурылі тэакратычную ідэю. Сьвяшчэннае рымскае царства і сьвяшчэннае расейскае царства мелі ў сабе патэнцыю сусьветнасьці. Цар, як царкоўны чын, уладаючы царкоўнаю ўладаю, ня можа быць толькі нацыянальным царом. Канстанцін Вялікі і быў царом сусьветным. І калі ўлада расейскага цара мела выключнае значэньне для Праваслаўнай Царквы, дык яна ў патэнцыі лічылась сусьветнаю ўладаю. Бяз гэтае сусьветнасьці праваслаўны цар мае ня больш значэньня, чым англійскі кароль у англійскай царкве. Тэакратыя ёсьць такая-ж унівэрсалістычная ўтопія, як і камунізм.

Тэакратыя імкнецца да выкрыцьця і сьцьверджаньня сьвятой гістарычнай плоці ў царстве кесара, да сьвятой цялеснасьці. Так безканечны дух хочуць замкнуць у канечную плоць, падпарадкаваць безканечнае канечнаму. Царства Божае робіцца падобным да царства зямнога: І цяжка пагадзіць гістарычныя тэакратыі з явангельскімі словамі: „Князі народаў кіруюць імі, і паны ўладаюць імі; але, паміж вамі няхай ня будзе гэтага; а хто з вас хоча быць большым, няхай будзе вам слугою". Гэтым сцьверджываецца радыкальнае падабенства Царства Божага да царства кесара. Сутнасьць-жа тэакратыі ў сьцьверджаньні падабенства, даходзячага да тажсамасьці. І ўмоўная сымболіка ёсьць шлях сьверджаньня такога роду падабенства. Два саблазны зьвязаны ў гісторыі хрысьціянства з тэакратычным гаспадарствам — папацэзарызм і цэзарапапізм. У чыстым і аканчальным выглядзе гэтыя два ўхіленьні ніколі не панавалі ў хрысьціянскім сьвеце — і каталіцтва і праваслаўе заўсёды былі нязьмерна глыбей і шырэй гэтых двух ухіленьняў. І аднак-жа ў гістарычную плоць праваслаўя і ў гістарычную плоць каталіцтва шыбка ўкаранілісь падставы папацэзарызму і цэзарапапізму. Дадатні бок праваслаўя ў тым, што цэзарапапізм ніколі ня быў прадметам дагматызаваньня ў каталіцтве. Але ў усходняй, праваслаўнай, візантыйскай тэакратыі ухіл цэзарапапізму фактычна гуляў вялікую ролю ў жыцьці Царквы, не ацэненай па глыбіні сваіх вынікаў катастрофай у Праваслаўнай Царкве, ня толькі вонкавым, але і ўнутраным пераваротам. Хамякаў з абурэнем адкідаў абвінавачаньне расейскай царквы ў цэзарапапізме. Абсалютна і аканчальна ён быў праў. Але ён зьменшыў гістарычную важнасьць гэтага пытаньня. Зусім не прыпадкова ў часе панаваньня Паўла І цар на падставе закону пачаў лічыцца главой Царквы. Такое сузнаньне ня можа быць дагматычна спраўджана і ня можа быць згодна з прыродай Праваслаўнай Царквы, яно не зьяўляецца натуральным параджэньнем гістарычных тэакратыяў. Праваслаўная Царква адзіным главой сваім прызнае толькі Хрыста. Але калі царства кесара прызнаецца сьвяшчэнным царствам, калі ў ім бачаць адбіцьцё Царства Божага на зямлі, тады імкненьне да еднасьці і суцэльнасьці ў жыцьці Царквы таўкае на шлях пры-

знаньня зямнога главы царквы. Цэзарапапізм ёсьць апошні пэрыад канстанцінаўскай эпохі хрысьціянства. У ім гістарычнае разуменьне хрысьціянства аканчальна засланяе эсхаталёгічнае яго разуменьне. Царства Божае ня імкнецца, не дасягаецца рэальна, а толькі сымбалізуецца ў царстве кесара. Гэта ёсьць гістарычны замен апакаліптычных прароцтваў аб Царстве Божым,—у ім царства кесара замяняе Царства Божае. У каталіцкім сузнаньні Царства Божае зрабілася тажасамасьцю гістарычнага жыцьця Царквы і ад гэтага загінула эсхаталёгічнае шуканьне Царства Божага. Але самая радыкальная адмова цэзарапапізму і папацэзарызму, як рэлігійных саблазнаў, не адкідала дадатняга значэньня манархіі і папства ў гісторыі хрысьціянскіх народаў. Але гэта зусім не вырашае рэлігійнага пытаньня аб тэакратычнай манархіі. Манархія зьяўляецца прыродна-гістарычным фактам у разьвіцьці народаў, і гэта яе рыса, якая павінна быць ацэнена, яна цалком належыць да гэтага сьвету, царства кесара і рысы яе на Царства Божае перанясьці немагчыма. Хамякаў і славянафілы абасноўвалі самадзяржаўную манархію нацыянальна-гістарычна, а не рэлігійна-містычна, і ім у сутнасьці ідэя юдаістычна-тэакратычная была чужою. Манархічныя гаспадарствы тым адрожнівалісь ад гаспадарстваў дэмакратычных, што падставаю іх звычайна былі пачынаньні зьверненыя да іншага сьвету, а не зямной эўдэманізм. Дзеля гэтага манархія была рэлігійнай дэмакратыяй. Вынікі становяць дэмакратыі кальвіністычныя. Але гэта ня значыць, што рэлігійна - спраўджаныя манархіі былі ў запраўднасьці тэакратыямі. Ды й ці-ж магчыма тэакратыя ў хрысьціянскім сьвеце, тэакратыя новазаветная? Тэакратычная ідэя ёсьць ідэя старазаветная, стара-жыдоўская. Хрысьціянская тэакратые ёсьць толькі абазначэньне Царства Божага, а рэальна Царства Божае ёсьць праабражэньне сьвету. Хрысьціянская тэакратыя прызнае толькі аднаго цара—Хрыста. А гэта значыць, што тэакратыя ў хрысьціянстве азначае ложнае перанясеньне старазаветных жыдоўскіх катэгорыяў на хрысьціянскае жыцьцё. І дасягаецца гэтым толькі спраўджаньне прыроднага паганскага царства.

**Бердзяеў.**

(Працяг будзе).

# Нацыянальны элемэнт у хрысьціянстве.

Характэрная рыса Праваслаўнае Царквы тая, што кожная мяйсцовая царква, існуючая на тэрыторыі данага народу, прыстасоўваецца да мясцовых умоваў жыцьця і прымае ў большай ці меншай меры выразны характар нацыянальных адзнакаў гэтага народу. Гэтая рыса арганізацыі мяйсцовых царквоў на тэрыторыях асобных народаў, прымае ў Усходняй Царкве характар сьвядомай тактыкі ў праціўлежнасьць інтэрнацыянальным тэндэнцыям іншых канфэсіяў.

У самым выразе „Нацыянальная Царква“ некаторыя бачаць супярэчнасьць самому зьместу: заўважваецца, што хрысьціянская рэлігія абвесьціла прынцып незалежнасьці рэлігіі ад нацыянальнасьці (у Царкве Хрыстовай „няма эліна і іудэя“); Хрыстос заснаваў Царкву, якая павінна быць адзінай сусьветнай. Гэта дае падставы гаварыць, што хрысьціянства адкідае нацыянальны характар царквы, звужае абсалютны і ўнівэрсальны характар хрысьціянства. Гэткае тлумачэньне стаіць на памылковым зьмешваньні сутнасьці і формы ў рэлігіі.

Хрысьціянская рэлігія, рэлігія народаў не зьяўляецца супярэчнасьцю з нацыянальнасьцю. Гэтак сама як сусьветны ідэал чалавецкага духу—праўда, дабро, хаця-ж і для ўсіх людзей аднолькавае маюць значэньне, але выяўляюцца ў іншых формах у жыцьці кожнага народу, так і хрысьціянская рэлігія маючая ахапіць увесь сьвет, выяўляецца ўсё ў новых вонкавых формах і з новай унутранай сілай у канкрэтных абставінах жыцьця кожнага народу. Заданьні аб-

салютнага значаньня, якія мае хрысьціянства, не адкідаюць нацыянальных формаў царкоўнага жыцьця. Адзіная і нязьменная ў падставах сваёй багаткравеннай навукі, царква ў рожных стадыях свайго гістарычнага працэсу прымае і выкарыстоўвае тыя формы чалавечяга жыцьця, якія паходзяць з прыроднага характару гэтага народу. Кожны народ мае пэўныя асаблівасьці, якія становяць характар яго нацыянальнага аблічча і імкнецца да таго, каб выяўляць і разьвіваць гэтыя асаблівасьці ва ўсіх галінах свайго жыцьця — палітычнага, культурнага, рэлігійнага. Мова—гэта вялікі скарб народу, і ня можа ён не злажыць гэтага скарбу ў тую найвялікшую скарбніцу яго душы, дзе схавана яго вера. Толькі асобныя адзінкі могуць адрывацца ад свае нацыянальнасьці. Есьць людзі, якія ня маюць нацыянальнага грунту, але гэта толькі выняткі з агульнае гушчы чалавецтва, звычайна ў большай ці меншай меры адарваныя ад жыцьця людзкое гушчы і яе інтэрэсаў.

Для сярэднявечных вучоных, якія ўжывалі лацінскую мову, была яна карысна толькі для навукаў схолястычных, але ў гэтай застарэлай мове, ад часу, калі яна стала мёртвай, не магла ўтварыцца літэратура, якая закранае найглыбейшыя чалавечыя пачуцьці, інтымныя струны чалавечае душы адклікаюцца толькі на тое, што сваё роднае, блізкае—ня толькі па зьместу, але па форме, што мае ўласьцівую для данага народу нацыянальную адзнаку.

Гэты прыродны закон сувязі паміж падставамі рэлігійнымі і нацыянальнымі існаваў яшчэ на пачатку чалавечага жыцьця. Кожны народ меў сваіх багоў, свой культ, свае звычаі, свае традыцыі. Рэлігія ўважалася ўласнасьцю кожнага народу і стварала нацыянальныя адзнакі, якія адрожнівалі адзін народ ад другога. У старадаўныя часы галоўнай адзнакай народу поруч с моваю была і рэлігія. Гэта зьявішча гістарычнае, а дзеля гэтага ў падставе сваёй прыроднае, і яго трэба канечна падкрэсьліць, а асабліва ў тым выпадку, які канстатуе сувязь рэлігійных і нацыянальных адзнакаў народнага духа. Але ў паасобных выпадках формы гэтае сувязі не заўсяды былі натуральнымі,—часта здараліся памылкі. Асобныя народы ўважалі сябе лепшымі выбранцамі божымі, а другіх лічылі за гной для сябе; прыкладам можа быць жыдоўскі народ, які меў сваяго Бога—Бога Аўраама, Ісака і Якава, які прысвоіў сабе і толькі выключна сабе ўсе ласкі Божыя. Хрысьціянства, ў якім сябры Царквы ўважаюць сябе ня толькі элінамі і іудэямі, ці належачымі да якое-нібудзь іншае нацыі, але і братамі па веры, дзяцьмі аднаго Айца нябеснага, рашуча зьмяніла старыя паганска-жыдоўскія пагляды, старую—рэлігійна-нацыянальную выключнасьць. Але старыя перажыткі засталіся і на далей. Побач з старымі скрайнасьцямі нацыянальнай выключнасьці, засталіся яшчэ й іншыя скрайнасьці праціўлежнага характару. Калі ў паганскіх культах падставы рэлігійнасьці зьліваліся з нацыянальнымі, рэлігіі мелі змаганьне мяйсцовае; пэўныя-ж напрамкі ў хрысьціянстве пачалі надаваць яму характар залішне ўнівэрсальны, інтэрнацыянальны, адрываючы яго ад нацыянальнага грунту, якім перш за ўсё мае быць рэлігійнае жыцьцё народу.

Нацыянальны элемэнт у хрысьціянстве найменш выяўляецца ў Царкве каталіцкай. Унівэрсальны і інтэрнацыянальны характар яе арганізацыі адбіваецца між іншымі і на адносінах яе і да нацыянальнага элемэнту ў Царкве. Царква паасобных народаў, якія складаюць сусьветную Царкву, для каталіцтва—аднародныя атамы, і якая Царква мае ў сабе элемэнты нацыянальныя, дык гэта зьявішча прыпадковае. Такія зьявішчы, як галіканства, уніяцтва, ужываньне народнай мовы ў Службе Божай толькі дапусьцімы, але не знаходзяць сабе грунту ў падставах каталіцкай царкоўнай навукі. Тут толькі сэпарацыя мовы і абраду, але ў сфэры не адміністратыўнай, і галоўнай умовай гэтай сэпарацыі ёсьць перш за ўсё прызнаньне аднае ўлады, агульнае для ўсяе Каталіцкае Царквы—зьверхніцтва папы. Ды да гэтае ўмяркаванае сэпарацыі адносіны вельмі няпрыхільныя: яе церпяць толькі да часу, пакуль яна ня будзе даведзена да адзінага стану лацінскай царкоўнасьці, пасьля чаго будзе скасавана. Гэта бачым на яскравым

прыкладзе з стараславянскай мараўскай Царквой, якая была заснавана сьв. братамі, першымі вучыцялямі славянаў, у якой не засталося і сьледу славянскай мовы і ўсходняга абраду, апрача традыцыйнага захаваньня назоваў сьв. братоў у Велеградзе. Тое-ж самае бачым у сучаснай украінскай вуніяцкай царкве, якая на нашых вачох траціць свае нацыянальна-абрадавыя адзнакі і што раз больш уніфікуецца з лацінскім абрадам.

Фактычна з нацыянальным элемэнтам у рэлігіі лічыцца і каталіцкая царква, так у асобных народаў—французаў, італьянцаў, гішпанцаў. немцау, палякоў захоўвае асобнае для кожнага народу нацыянальнае аблічча, пры чым, напр.: у палякоў яна мае яскрава выражаны нацыянальны характар, у каталікоў грузінаў багаслужэбнай мовай зьяўляецца грузінская. На грунце нацыянальным адбылася і сэпарацыя даўнейшых складаных часьцін каталіцкае царквы. У факце выступленьня нямецкага пратэстантызму з улоньня лацінскае царквы, нацыянальныя матывы згулялі вялікую роль; пратэстантызм адбівае ў сабе індывідуальныя рысы нямецкага гэнія з яго філёзоўскім напрамкам пярэчачым жорсткаму, цэнтралістычнаму духу Рыма. Гэтыя самыя натуральныя матывы спрыялі выдзяленьню англійскай царквы, такі самы фактар быў галоўнай прычынай утварэньня чэхаславацкай і харвацкай нацыянальных царквоў.

Нацыянальны элемэнт, як бачым, выяўляецца ў такой значнай меры нават у Царкве Каталіцкай, якая ня спрыяе разьвіцьцю нацыянальнай стыхіі ў царкоўным жыцьці. Ня маючы тут прастору для натуральнага разьвіцьця, гэтая стыхія павяла да аддзяленьня ад Рыму асобных нацыянальных цэркваў. што нарушыла дагматычную царкоўную еднасьць.

Праваслаўны Усход прызнае прыродныя падставы царкоўна-нацыянальнай эманцыпацыі, і дзеля гэтага апошняя адбываецца тут без такіх катастрофаў.

Галоўнай падставай падзелу сусьветнай Праваслаўнай Царквы на цэрквы краявыя з даўных часоў быў натуральны падзел хрысьціян на асобныя нацыянальныя групы. Праваслаўе ўважае, што хрысьціянства мусіць асьвяціць усе народы, а дзеля гэтага яно не пярэчыць натуральнаму падзелу людзей на народнасьці і не дамагаецца скасаваньня тае ці іншае нацыянальнае рысы, калі яна не пярэчыць маральнаму вучэньню хрысьціянства. „Ідзіце“—сказаў Хрыстос апосталам „навучаць усе народы“. (Матв. 28. 19).

Апосталы навучалі пераважна ў вялікіх гарадох, думаючы, што з гарадоў хрысьціянства пашырыцца і на ваколіцы. Гэтак сама рабілі і наступнікі апосталаў. Адсюль выцякае, што галоўныя гарады пэўнага народу, якія былі яго адміністратыўным асяродкам сталі і духоўным асяродкам для гарадоў і вёсак.

Як доказ такой практыкі можна паказаць на словы Тэртуліяна: „Абыдзі апостальскія цэрквы, у якіх да гэтага часу стаяць іх катэдры, з якіх чытаюцца іх пасланьні выяўляючы голас і аблічча іх. Калі недалёка ад цябе Ахава, дык маеш Карынф, калі жывеш недалёка ад Макядоніі, дык маеш Філіпі, маеш Тэсалёніку; калі маешісьці ў Азію, дык там ёсьць Эфэс, калі жывеш недалёка ад Італіі, дык маеш Рым.

(Працяг будзе).

# Родныя вобразы.

Вобразы мілыя роднага краю,
Смутак і радасьць мая!
Што маё сэрца да вас парывае?
Чым так прыкованыя

К вам, мае ўзгорачкі роднага поля,
Рэчкі, курганы, лясы,
Поўныя смутку і жальбы, нядолі,
Поўныя сумнай красы?

Толькі я лягу і вочы закрыю,
Бачу я вас прад сабой.
Ціха праходзіце вы як жывыя
Зьяючы мілай красой.

Чуецца говар мне сьпелае нівы,
Ціхая жальба палёў,
Лесу высокага гоман шчасьлівы,
Песьня магучых дубоў.

Вобразы. мілыя, возбразы смутныя,
Родныя вёскі і люд
Песьні цягучыя, песьні пакутныя,—
Бачу і чую я тут!

**Якуб Колас.**

# Рукі прэч.

Выхад першых двух нумароў „Беларускай Зарніцы“ адзначаны прэсаю расейскаю, польскаю і асабліва беларускаю. Нас ня дзівяць варожыя адносіны да нас расейцаў, якія нават у імкненьні беларускіх царкоўна-грамадзкіх дзеячоў да зьбліжэньня духавенства з народам дзеля ўзмацаваньня і паглыбленьня праз гэта роднае веры, дабра царквы. народу і самаго духавенства, бачаць падкоп пад „единую и неделимую“,—зусім зразумелы для нас такія-ж адносіны і хадэцкае польскае прэсы, для якой назначаныя „Беларускай Зарніцай“ мэты зьяўляюцца праціўлежнымі яе мэтам,—але нас запраўды дзівіць тое аб‘яднаньне, якое „Беларуская Зарніца“, выклікала паміж з аднаго боку расейскаю і хадэцка - манархістычна - польскаю прэсаю, а з другога—часткаю беларускае прэсы.

Такая прыязьнь і салідарнасьць вельмі цікава, бо яна выяўляе запраўднае аблічча тых беларускіх дзеячоў, якія так духова парадніліся з расейцамі і польскімі кадэка-манархістамі.

Такое зьявішча для нацыянальнае беларускае справы трэба лічыць прыемным, бо яно здымае маску з людзей і паказвае, што пытаньні царкоўнага жыцьця і агульна-нацыянальнае справы іх ня столькі цікавяць як іх асабістыя справы, магчымасьць атрыманьня пры выбарах таго ці іншаго ліку галасоў—і г. д.

Разам з тым трэба адзначыць, што некаторыя з сучасных беларускіх „дзеячоў“, якія так занепакояны выхадам „Беларускае Зарніцы“, пачынаючы з другой паловы 1927 г. вельмі дамагаліся супрацаўніцтва з праваслаўнымі беларусамі, але гэтыя іх дамаганьні былі адкінуты.

„Беларуская Зарніца“ мае свае мэты выключна царкоўна-нацыянальныя і да зьдзесьненьня іх імкнецца. Праваслаўна-веруючыя беларусы будуць самі будаваць гэтую галіну сваяго жыцьця і за параду, напрыклад, аднаго беларускага воргану, які так сьмела пісаў, што не патрэбна аб‘яднаньне праваслаўных беларусоў, што ёсьць ужо беларуская хадэцыя (каталіцкая), якая будзе бараніць (ад каго?) справы праваслаўных беларусаў—шчыра дзякуюць.

Варожасьць, якую, так салідарна

выявілі да „Беларускае Зарніцы“ нічога супольнага нямаючыя між сабою некаторыя органы прэсы, сьведчыць толькі аб **значэньні** і зьяўляецца непатрэбным доказам патрэбы і неабходнасьці „Бел. Зарніцы“. Яна мае на мэце ўзмацаваньне роднае веры ад уціску яе праз каго бы-та ні была, абчышчэньне яе ад чужацкіх элемэнтаў і г. д. І ўсім тым, хто будзе шкодзіць працы ў гэтым напрамку, хто дзеля свае ўласнае карысьці будзе перашкаджаць дасягненьню гэтых мэтаў праваслаўна-веруючы беларускі народ кажа: рукі прэч!

**Алі.**

---

# КАНКАРДАТ

## заключаны Апостальскай Сталіцай і Рэспублікай Польскай.

У імя Найсьвяцейшай і Непадзельнай Тройцы.

Яго Сьвяцейшасьць Папа Пій XI і Прэзыдэнт Рэспублікі Польскай Станіслаў Войцехоўскі,

жадаючы акрэсьліць становішча Каталіцкага Касьцёлу ў Польшчы і вызначыць рэгулы. якія будуць кіраваць касьцельнымі справамі ў Польшчы, пастанавілі заключыць Канкардат.

Дзеля гэтае мэты Яго Сьвяцейшасьць Папа Пій XI і Прэзыдэнт Рэспублікі Польскай Станіслаў Войцехоўскі вызначылі сваімі паўнамоцнікамі;

Сьвяты Айцец —
Яго Найсьвяшчонства Кардынала Пятра Гаспарры, сваяго Дзяржаўнага Сэкрэтара,

Прэзыдэнт Рэспублікі Польскай —
Уладыслава Скржынскага, прадстаўніка Рэспублікі Польскай у Рыме; Прафэсара Станіслава Грабскага пасла Сойму Польскага, былага Міністра Вызнаньняў і Асьветы.

Паўнамоцнікі гэтыя вынясьлі наступную пастанову, якую абодва Высокія Бакі абавязаліся выконваць:

### Арт. I.

Каталіцкі Касьцёл, бяз рожніцы абрадаў, будзе карыстацца ў Польшчы поўнай свабодай. Дзяржава запэўнівае Касьцёлу свабоднае выконываньне яго ўлады духоўнай і яго юрыздыкцыі касьцельнай, а таксама свабодную адміністрацыю, кіраваньне яго справамі і маемасьцю згодна з касьцельнымі кананамі.

### Арт. II.

Япіскапы, духавенства і верныя будуць свабодна і безпасрэдна зносіцца з Сьвятой Сталіцай. У выконываньні сваіх функцыяў, Япіскапы свабодна і безпасрэдна будуць зносіцца з сваім духавенствам і сваімі вернымі.

### Арт. III.

Дзеля захаваньня добрых адносінаў паміж Сьвятой Сталіцай і Рэспублікай Польскай, у Польшчы будзе жыць Апостальскі Нунцый, а ў Сьвятой Сталіцы— Паўнамоцнік Рэспублікі Польскай. Улада Апостольскага Нунцыя ў Польшчы будзе распашырацца і на тэрыторыю Вольнага Места Гданска.

### Арт. IV.

Улада цывільная будзе даваць сваю помач пры выконваньні пастановаў касьцельных: а) у выпадку дэстытуцыі духоўнай асобы. пазбаўленьня яе касьцельных бэнэфіцыяў, па абвяшчэньні кананічнага дэкрэту аб успомненай дэстытуцыі або пазбаўленьні бэнэфіцыяў, а таксама ў выпадку забароны нашэньня духоўнай вопраткі; б) у выпадку прысваеньня сумаў, прызначаных на касьцельныя мэты; в) ва ўсіх іншых выпадках, паказаных адпаведнымі ўставамі.

### Арт. V.

Духавенства пры выконываньні сваіх абабязкаў будзе карыстацца асаблівай апекай права. На роўні з дзяржаўнымі ўрадоўцамі будзе мець права звальненьня часткі сваёй маемасьці ад судовага заняцьця. Духоўныя, якія пасьвяціліcь, манахі, якія зложылі прысягу і вучні, якія паступілі ў сэмінарыі перад абвяшчэньнем вайны будуць звольнены ад службы вайсковай, апрача „pospolitego ruszenia". У гэтым астатнім выпадку ксяндзы будуць выконываць у войску свае пастырскія абавязкі, аднак так, каб гэта не адбілася на карысьці парафіі, рэшта-ж належачых да духоўнага стану будуць пакліканы да працы санітарнай. Духавенства будзе звольнена ад абавязкаў грамадзкіх, нязгодных з іх абавязкамі духоўнымі, як напр.: пасадаў прысяжных судзьдзяў, сяброў трыбуналу і інш.

### Арт. VI.

Недатыкальнасьць касьцёлаў, капліц і могільнікаў запэўнена, аднак так, каб гэта ня стала на перашкодзе карысьці грамадзянства.

### Арт. VII.

Войска Рэспублікі Польскай будзе карыстацца з прывілеяў, якія Сьвятая Сталіца надае вайскам згодна з кананічнымі правіламі. Ксяндзы будуць мець правы настаяцеляў адносна вайсковых і іх сем'яў і будуць выконваць свае абавязкі пад юрыздыкцыяй палявога Япіскапа, які будзе мець права іх выбару. Сьвятая Сталіца дазваляе, каб духавенства ў справах датычачых яго вайсковай службы падпарадкавалась уладзе вайсковай.

### Арт. VIII.

У нядзелі і ў дзень нарадовага сьвята Трэцяга Траўня ксяндзы, адпраўляючыя Службу Божу, будуць чытаць малітву за дабрабыт Рэспублікі Польскай і яе Прэзыдэнта.

### Арт. IX.

Ні адна частка Рэспублікі Польскай ня будзе належыць Япіскапу, рэзыдэнцыя якога будзе знаходзіцца за межамі Польскае Дзяржавы.

(Працяг будзе).

---

# Маральныя падставы коопэрацыі.

Коопэрацыя — гэта сацыяльная форма, якая стыхійна вырастае ва ўсіх дзяржавах з эканамічных патрэбаў працоўных масаў. Аднак-жа было-б памылкаю думаць, што толькі адныя матэр'яльныя патрэбы як-бы аўтаматычна прыводзілі заўсёды да аўтаматычнага ўзьніку коопэратываў. Мы часта можам бачыць ў жыцьці, як рожна адбіваецца патрэба на рожных людзях: у адных яна загартоўвае дух, падымае энэргію, зьбірае ўсе высілкі, каб ня гледзячы на ўсе беды адстаяць існаваньне свае і свае сям'і; на другіх яна ўплывае расслабляюча, паралізуе іх энэргію, робіць іх апатычнымі, ня здольнымі да барацьбы за лепшую будучыню.

Коопэрацыя з найвялікшым посьпехам можа ўзьнікнуць там, дзе патрэбу адчуваюць людзі маральна здаровыя, дзе ў барацьбу з ёю ўступаюць харак тары рашучыя і моцныя.

Патрэба дае толькі прычыну для стварэньня коопэратываў, сіла-ж якая запраўды можа стварыць і пашырыць іх існаваньне і разьвіцьцё, караніцца ў душах людзей, у іх характарах.

І гэта зусім не прыпадкова, што ва ўсіх старонках бачым у крыніцы коопэрацыі людзей, адрожніваючыхся сілай духа, моцнай любоўю да чалавецтва, верай ў значэньне праўды і справядлівасьці.

Гэтыя моцныя духам людзі, сьмела ідуць на спатканьне з усякімі перашкодамі і часта гатовы бываюць прынясьці сябе ў ахвяру за магчымасьць палепшаньня матар'яльнага дабрабыту грамадзянства.

Хто хоця-ж павярхоўна азнаёміўся

з гісторыяй коопэрацыі, той зразумее, што падставы коопэрацыі маюць перад усім маральны характар, што коопэрацыя можа існаваць толькі там, дзе яе разьвіцьцём кіруюць адзінкі высокачэсныя.

Там-жа, дзе існуе эгаізм, імкненьне да ўласнай карысьці, коопэрацыя разьвівацца ня можа і ператвараецца ў карыкатуру. Сувязь коопэрацыі з этыкай стане зусім зразумелай, калі прадставім сабе, што коопэрацыя па сваёй сутнасьці—ёсьць уплашчэньне прынцыпу салідарнасьці.

Яна імкнецца да таго, каб згуртаваць народ у адну вялікую дружную сям'ю, зьніштожыць клясавыя, нацыянальныя і палітычныя спрэчкі, даючы тыя правы кожнаму індывідууму і накладаючы тыя абавязкі, пры супольным выкананьні якіх людзі мелі-б магчымасьць лягчэй пэражываць усе няўзгоды і па-брацку карыстацца матар'яльным прыбыткам.

Коопэрацыя — ёсьць згода, а дзеля гэтага яна бязумоўна прымушае людзей ва ўсім шукаць згоды і ўзаемапомачы. Там, дзе разьвіваецца коопэрацыя, — няма падставаў да праціўлежных інтэрэсаў, а дзе інтэрэсы людзей згодны, там няма прычынаў для спрэчак, барацьбы, вайны і г. д.

Калі коопэрацыя—згода, дык яшчэ з большым правам можна казаць, што коопэрацыя — свабода і дабрабыт.

Аднак-жа гэтую свабоду нельга зьмешываць з неабмежаваным панаваньнем сваекарысных мэтаў. Такой свабоды коопэрацыя не дае; наадварот, яна накладае на сваіх сяброў абавязкі, якія яны мусяць выконваць для карысьці агульнае справы. Але ў гэтым абмежаваньні асабістае волі і ёсьць крыніца запраўднае свабоды, якая і выяўляецца ў дабравольным падпарадкаваньні агульным законам, праву і маралі. Свабоды няма там, дзе ёсьць самавольле. Свабодны ня тыя, якія робяць, што хочуць, а тыя, якія ведаюць, што яны павінны рабіць і падпарадкуюцца гэтай „павіннасьці“ бяз вонкавага прымусу.

Разам з свабодай коопэрацыя дае сваім сябром дабрабыт, г. зн. забясьпечывае іх матар'яльнае становішча, дае разумнае задаваленьне іх фізычным і духовым патрэбам. Усе яе правілы скіраваны да дасягненьня іменна гэтае мэты. Галоўная мэта коопэрацыі—устанаўленьне такога ладу, пры якім усе людзі былі-б яе сябрамі і знаходзілі-б у ёй працу адпаведна сваяму жаданьню і здольнасьцям.

Хаця-ж зазвычай людзі, запісываючысь у сябры коопэратываў і не заўсёды разумеюць, што яны ўваходзяць у новы, вышэйшы сьвет, дзе кіруюць законы лепшага і чысьцейшага жыцьця — але-ж гэта так.

У сутнасьці коопэрацыя толькі тады можа ўтварыць больш чыстае і добрае гаспадарчае і грамадзкае жыцьцё, калі ўсе зразумеюць яе ідэі. Кожны коопэратыў будзе толькі тым, што з яго зробяць яго сябры.

Пры адсутнасьці маральных падставаў коопэрацыя ня можа разьвівацца, ня можа нясьці сваю помач людзям, якія маняцца выкарыстаць яе коштам сваіх блізкіх, якія толькі хочуць браць, нічога не даючы, якія ахвотна пажынаюць плады працы сваіх сяброў, а самі ўхіляюцца ад выконываньня сваіх абавязкаў.

Коопэратывы нельга садзіць на кожным грунце. На зацьвярдзеўшым ад эгаізму і пакрытым каменьнямі жорсткасьці і несправядлівасьці грунце коопэратыў ня пусьціць карэньня.

Наадварот, там дзе ў грамадзянстве якога-небудзь места ці вёскі жывуць салідарнасьць, разуменьне сваяго абавязку і сумленнасьць — коопэратыва ў кароткі час закрасуе і дасьць добрыя вынікі. Дзеля гэтага можна сьмела казаць, што разьвіцьцё коопэрацыі ў якой-небудзь краіне зьяўляецца доказам маральнага роўня яе грамадзянства.

Той, ці іншы народ ня можа нічым даць лепшага доказу аб сваім характары, як сваёй здольнасьцю давесьці коопэрацыю ў сваім краі да належнага разьвіцьця.

І калі народ імкнецца дасягнуць гэта, дык ён працуе ня толькі для сваяго ўласнага дабрабыту і дабрабыту будучых пакаленьняў, але і для зьдзейсьненьня ідэалу „На зямлі мір“.

**Вукол.**

# Агляд прэсы.

На сучаснае становішча Праваслаўнае Царквы ў Польшчы шмат увагі зварачвае дэмакратычны „Kurjer Wileński". Вельмі цікавы яго перадавіцы. Адносячыся прыхільна да склíканьня краёвага сабору і пакладаючы на яго вялікія надзеі для дабра Праваслаўнае Царквы, „Kurjer Wileński" зусім правідлова паказвае на тую прорву, якая ў сучасную пару стварылася паміж духавенствам і міранамі.

У № 198 ён піша.—

„Няшчасьцем для Праваслаўнае Царквы ў Польшчы ёсьць прорва стварыўшаяся паміж пастырамі і паствaю, гэта значыць, паміж большасьцю духавенства і праваслаўным грамадзянствам. Прорва гэтая стварылася яшчэ ў часы Царскае Расеі, але асабліва адчуваецца яна пасьля рэвалюцыі. Трэба шмат добрае волі з абодвых бакоў, каб прорву гэтую засыпаць. Трэба прызнаць адкрыта, што праваслаўнае духавенства ў значнай сваёй большасьці ніколі не знаходзілася і ў Расеі на адпаведнай вышыні сваяго становішча.

Асабліва быў благі склад таго праваслаўнаго духавенства, якое было прыслана на нашыя Усходнія землі і нагул у Польшчу. Яго мэтаю было нястолькі апека над рэлігійным жыцьцём даручаных яму людзей, сколькі русыфікацыя... Я не дзеля таго ўспамінаю аб гэтым, каб выклікаць непашану ў адносінах да ўсяго праваслаўнаго духавенства, аднак-жа мушу сьцьведзіць, што шмат праваслаўнага духавенства, працуючаго на нашых землях, уважлаа сябе больш за авангард царскага ўраду як за духаўнікоў.,.

Тое іменна духавенства, якое было прыслана некалі для русыфікацыі нашых земляў засталося ў нас, акліматызавалася, але да апошняе пары нічога не запамятавала і ні чаму не навучылася... Гэтай частцы праваслаўнага духавенства належыць прыпісаць віну за ўнутраны разлад, які ўжо некалькі гадоў існуе паміж духавенствам і міранамі Праваслаўнае Царквы.

Часьціну віны нясе таксама і расейскі наплывовы элемэнт, які перад усім складаецца з былых урадоўцаў рожных катэгорыяў, урадоўцаў праваслаўных кансісторыяў, адміністрацыі, каляёўцаў і г. д., якія па сваёй ідэалёгіі згадзіцца з сучасным становішчам ня могуць і якія да гэтае пары глядзяць на Польшчу як на „Прывісьлянскі Край", а на кожную новую праяву жыцьця, як на парушэньне догматаў царкоўных, пераклад багаслужэбных кнігаў на ўкраінскую мову трактуюць як замах на рэлігію...

Трэба прызнаць у імя праўды, што Вышэйшая Царкоўная Улада Праваслаўнае Царквы ў Польшчы выявіла шмат добрай волі і жаданьня ўпарадкаваць справы Праваслаўнае Царквы згодна з воляю праваслаўнага грамадзянства пераважна з яго большасьцю.

Пачата шмат рэформаў, як увядзеньне ў царкоўнае жыцьцё старажытных украінскіх абрадаў на Валыні і частцы Палесься, ўведзена замест расейскае ўкраінская мова ва ўнутраных зносінах у Крамянецкай і Пінскай кансістарыях і запрапанавана ўвядзеньне беларускае мовы ў Віленскай кансісторыі...

Урад і грамадзянства глядзяць прыхільна на гэтыя рэформы, якія вядуць да зьліквідаваньня канфліктаў, меўшых да гэтуль мейсца паміж царкаўнай гіярархіяй і вернымі. Урад дапамагае царкоўнай уладзе ва ўсіх яе імкненьнях, згодных з воляю большасьці праваслаўнага грамадзянства...

Успамінаючы мінулае, думаем аб будучыні. Судзячы па пачаткам працы праваслаўнай духоўнай улады, шукаючай апоры ў шырокіх колах сваіх верных і супрацоўнічаючай з урадам, спадзяемся, што ўсе спрэчныя пытаньні будуць вырашаны прыхільна.

Некаторыя з іх вырашыць Царкоўны Сабор, які мае ў нядоўгім часе адбыцца і Праваслаўная Царква стане на адпаведным роўні.

Упарствуючае духавенства змушана будзе пайсьці за голасам свае Вышэйшае праўнае духоўнае Улады згодна з

вучэньнем: „несьць бо власьць, ашчэ не ад Бога“ і за голасам сваіх верных, бо іначай застануцца пастырамі без авец. А былыя ўрадоўцы кансісторыяў і адвакаты па разводным справам змушаны будуць перастаць крычаць, альбо выбрацца туды, гдзе ім здаецца ляпей“.

Дадаць да гэтага хіба-ж няма чаго.

Належыць толькі зьвярнуць на гэта асаблівую ўвагу тых, каго гэта датычыць.

---

Адпаведнае мейсца сучаснаму царкаўнаму жыцьцю ў Заходняй Беларусі дае і ворган Беларускае Сялянскае партыі „Народ“, які ў № 17 у артыкуле „Новая пара ў беларускім руху“ між іншым піша.

„Але калі яшчэ вельмі шмат Беларусам асталося зрабіць у беларускім касьцельна-каталіцкім жыцьці, дык, мусім прызнацца, што ў жыцьці царкоўна-праваслаўным дагэтуль блізу што нічагусенькі ня зроблена. Ня будзем разглядаць прычынаў гэтага—іх шмат. Адценім толькі факт, што калісь свая і вельмі заслужоная для беларускага народу Праваслаўная Царква ў Беларусі сталася ў вапошнія часы панаваньня над намі Маскалёў нам чужой і варожай. Палажэньне гэтае не зьмянілася і пасьля сусьветнай вайны і рэвалюцыі на Усходзе Еўропы. Адзінкі з паміж праваслаўнага духавенства нават у найгоршаю пару аставаліся, праўда, вернымі свайму народу, але цэлая маса нашага праваслаўнага духавенства дагэтуль была чужой беларускаму народу.

Калі беларускі рух значне пашырыўся, дык ён мусіў раней ці пазьней абняць і беларускае царкоўнае жыцьцё. Нельга сказаць каб першыя спробы тэтага абняцьця былі ўдачныя. Віною гэтаму было тое, што за гэтую справу браліся людзі або мала зьвязаныя з царкоўным жыцьцём у Беларусі або яшчэ меней ці навет нічагусенкі не зьвязаныя зь беларускім рухам.

Надзеі пакладаныя часьцяй беларускага грамадзянства на сэн. В. Багдановіча не апраўдаліся. І няма дзіва, бо чалавек, што дагэтулешняе сваё жыцьцё аддаў на працу працілежную — русыфікацыйную, можа перастаць быць няпрыяцелям беларускага руха, але ня можа на старыя гады тварыць беларускі праваслаўна-царкоўны рух. І запраўды, дзейнасьць сэн. В. Багдановіча падабалася часьці праваслаўнага духавенства старога часу, але далей „падабаньня“ справа не пайшла, нікога ён не запаліў да барацьбы, а да ахвяраў і пагатове. Ня мог пацягнуць людзёў, ня мог стварыць новаэ галіны беларускага руху той, хто ў сваім воргане („Праваслаўная Беларусь“) ня мог ясна адлучыць Беларусаў ад Маскалёў, а беларускую праваслаўную Царкву проста ўлучаў у Царкву маскоўскую.

Спраўдзілася тут яшчэ раз евангельская праўда, што ня можна ліці новае віно ў старыя мяхі, бо мяхі прарвуцца і віно пральлецца.

Зусім накшым зьяўляецца беларускі праваслаўна - царкоўны рух найбалей прадстаўлены ад якогась часу айцом Аляксандрам Каўшом. Рух гэты, як можна ўжо відзець цяпер, шчыра-беларускі і шчыра-праваслаўны. Першыя кіраўнікі гэтага руху патрапілі яго ўжо сур'ёзна паставіць у праваслаўным жыцьці Польшчы. Гэтак Мітрапалітальная Рада Праваслаўнай Царквы ў Польшчы папоўнена прадстаўнікамі ад праваслаўных Беларусаў. Ад Беларусаў у Мітр. Раду ўвайшоў ацец Алякс. Коўш, інспэктар Беларускае Гімназыі ў Вільні Р. Астроўскі і вучыцель Беларускае Гімназыі ў Наваградку М. Чатырка. Сьвяшчэньнік А. Коўш і Р. Астроўскі абраны такжа Мітрапалітальнай Радаю ў склад камісіі, што мае апрацаваць статут і праграму Праваслаўнага Сабору ў Польшчы. Сабор мае пачацца 10 студзеня 1929 г. ў Пачаеўскай Лаўры.

Заданьням гэтага беларускага праваслаўна-царкоўнага руху ёсьць: 1) увядзеньне пропаведзеў у цэрквах у беларускай мове, 2) выкладаньне ў школах закону Божага пабеларуску, 3) узгадаваньне будучых духоўнікаў для беларускага народу ў Віленскай Духоўнай Сэмінарыі ў беларускім нацыянальным духу і ў сувязі з гэтым выкладаньне ў сэмінарыі прадметаў пабеларуску, 4) вядзеньне справаў у консысторыях і перапіскі паміж консысторыямі, благачыннымі й сьвяшчэньнікамі пабеларуску“ („Беларуская Зарніца“ № 1).

# Усім Акружным Управам, Гурткам і Сябрам Таварыства Беларускае Школы.

## Паведамленьне.

28-га жніўня 1928 г. Гарадзкі Стараста места Вільні завесіў дзеяльнасьць Таварыства Беларускае Школы, матывуючы гэта вымогамі публічнае бясьпечнасьці.

У гутарках з прадстаўнікамі ваяводзкае ўлады дэлегацыя Галоўнае Управы і Нагляднае Рады выясьніла. што Таварыству робяцца закіды вядзеньня ня культурнае, а палітычнае антыдзяржаўнае працы.

У сваім рэкурсе—да Віленскага Ваяводы з 31 жніўня г.г. Галоўная Управа рашуча заявіла, што Таварыства займалася і займаецца выключна культурнаю дзеяльнасьцю і ніякага ўдзелу ў палітычным жыцьці, як установа чыста культурна-асьветная, ня прымала. Калі-ж бы аказалася, што тыя ці іншыя паадзінокія сябры Таварыства запраўды займаліся інкрымінаванай Таварыству працаю, дык і ў такім выпадку Таварыства ў сваім цэлым за іх дзеяльнасьць адказваць ня можа.

Вынікам гэтага рэкурсу было тое, што пастанова Гарадзкога Старасты аб „завешаньні" Таварыства ўхілена рэзалюцыяй Віленскага Ваяводы з дня 7-га верасьня г.г.

У сувязі з гэтымі выпадкамі, каб аканчальна адхіліць ад Таварыства закіды ў антыдзяржаўнай палітычнай працы, Галоўная Управа і Наглядная Рада, да якіх у першы чарод маглі-б быць скіраваны гэтыя закіды, як да адказных кіраўнічых органаў Таварыства, пастанавілі адмовіцца ў поўным складзе сваім ад сваіх паўнамоцтваў і часовае вядзеньне справаў Таварыства даручыць Камісіі з трох сяброў, якая павінна ў самым хуткім часе склікаць Агульны Сход Таварыства дзеля выбару новае Галоўнае Управы і Нагляднае Рады.

Згодна з пастановаю Камісіі, Агульны Сход склікаецца на дзень 21 кастрычніка г.г.

Падаючы аб гэтым да агульнага ведама, Камісія высказвае свае глыбокае пераконаньне, што сябры Таварыства на Агульным сходзе выбарам новых кіраўнічых органаў Таварыства пацьвердзяць зробленыя ўжо ад імя Таварыства афіцыяльныя заявы старое Галоўнае Управы і Нагляднае Рады аб апалітычным характары Таварыства і гэтым, таксама, як і ўсею сваею дзеяльнасьцю, аканчальна адкінуць робленыя Таварыству няслушныя закіды.

Дня 15/IX 1928 г.
Вільня.

Сябры Дачаснае Паўнамоцнае Камісіі:
(—) **А. Трэпка**, (—) **К. Крук**, (—) **Я. Шнаркевіч**

# Рэдакцыя „Беларускае Зарніцы"

ветліва просіць паважаных чытачоў, як духоўных так і сьвецкіх, прысылаць артыкулы і заметкі царкоўнага, культурнага, нацыянальнага, эканамічнага і інш. зьместу. Усе балючыя пытаньні знойдуць мейсца на старонках „Беларускае Зарніцы". Пісаць можна ва ўсіх мовах, якую хто ляпей ведае. Артыкулы і заметкі могуць быць надрукаваны альбо за подпісам аўтара, альбо пад псэўдонімам у залежнасьці ад жаданьня аўтара. У апошнім выпадку, калі матар'ял друкуецца пад псэўдонімам, таямніца аўтара бязумоўна захоўваецца. Артыкулы і заметкі рэдакцыя просіць надсылаць па адрэсу: Wilno, Letnia 7, „Białoruska Zarnica", ці на прозьвішча рэдактара.

# Гаспадарчыя парады.

## Штучныя гнаі.

Кожны пасеў забірае з ральлі пэўную колькасьць складовых часьцін, якія служылі-б расьлінам, як пажыва. З гэтых часьцін найбольш азоту, фосфаравага квасу і паташу — спажываюць расьліны, і іх заўсёды бракуе ў грунтах. Большую частку пажыўных часьцін зварачываем назад зямлі з хлеўным гноем; вельмі шмат вывозім іх за межы сваей гаспадаркі. Калі прадаем прадукты нашай гаспадаркі, як мяса, малако, то ў першай чарзе прападаюць для нашай ральлі азот і фосфаравы квас; патаж, які галоўна знаходзіцца ў бадылінах расьлін, у сене, саломе, бульбе, або ў буракох, моркве, бручцы, пераважна вяртаецца з гноем на ральлю. Звычайна ўжо ў 2—3-м годзе працы на ральлі бракуе ёй складовых часьцін гною на пажыву расьлінам і дзеля таго мусім ужываць для яе штучныя гнаі. Штучныя гнаі маюць звычайна толькі адну найважнейшую часьціну для пажывы расьліны ці то азот, ці то фосфаравы квас, паташ, або вапна. Яны ўплываюць карысна толькі тады, калі бракуе гэтай часьціны і калі расьлінам яна патрэбна.

На ўсіх землях найвыразьней выступаець брак азоту. Крыніцы, з якіх расьліны бяруць азот, вельмі скупыя, так што звычайна больш расходуецца азоту, чым яго прыбывае. Ральля атрымоўвае азот з хлеўнага гною і забірае яго з паветра пры помачы бактэрыяў, якія жывуць на карэньнях матыльковых расьлін. Азот у ральлі выступае пераважна ў арганічнай форме, гэтак у перагноях і таму чарназёмы і тарфовішчы давозу азоту найчасьцей не патрабуюць. Звычайна й фосфаравага квасу расьліна спажывае больш, чым яго вытвараецца ў ральлі. У ральлі яго ня вельмі многа, а пры гэтым яшчэ выступае ў форме трудна распушчанай. З хлеўным гноем толькі малая частка фосфару зварачваецца ральлі, бо ён галоўным чынам знаходзіцца ў зярнятах, мясе, малацэ, а гэтыя прадукты пераважна ідуць у горад на прадажу.

Паташ у большасьці вяртаецца на ральлю з саломай, сенам, бульбай, буракамі, бручкай, а ў прамысловых гаспадарках з брагай, бурачанай жмыхай— пэўная рэч, прайшоўшыя і ператраўленыя праз кармовы праход скаціны. Давоз паташу ёсьць патрэбным на пескаватых і тарфяністых землях, якія ў прыродзе вельмі бедныя паташом.

Усе штучныя гнаі могуць карысна ўплываць толькі тады, калі ральля мае ў сабе патрэбную колькасьць вапны. Вапна лёгка распускаецца ў вадзе і дажджавыя воды выпаласківаюць значную колькасьць вапны. Дзеля таго мусім ральлю час ад часу ўгнойваць вапнай, ня толькі каб прыдбаць пажывы расьлінам, але перадусім, каб дадаць вельмі важнай пажыўнай часткі, якая мае вялізарны ўплыў як на фізычныя, так і хімічныя свойствы — зямлі.

Ураджай з поля залежыць не ад пераважаючай колькасьці якога колечы гною, але ад таго гною, якога ў ральлі найменш. Каб ня выкідаць грошы ў форме дарагіх штучных гнаёў наасьлеп у ральлю, трэба пераканацца, якіх спажыўных частак ральля мае найменш. Гэтага дасягнем, калі будзем закладаць дасьледныя палі, якія, абсеяныя рознымі штучнымі гнаямі, або рознымі іх павязаньнямі пакажуць запраўдрасьць росту пасеянай расьліны.

Штучныя гнаі ўплываюць найменш на землях з пэўнай колькасьцяй перагною, з добрымі фізычнымі здольнасьцямі і пры спрыяючых кліматычных абставінах. Зьдзічэўшыя і мокрыя землі на штучныя гнаі рэагуюць кепска.

Што праўда, штучныя гнаі збагачаюць ральлю ў паасобныя пажыўныя часьціны і павялічваюць збор з поля, але яны не даюць ральлі перагною і тым самым, за выняткам вапны, не папраўляюць фізычнай здольнасьці ральлі. Дзеля таго даўжэйшае ўжываньне штучных гнаёў, без дадатку хляўнога гною, або зялёных гнаёў, ня ўдасца карысна правясьці.

**Агр. Р. Стэльмахаў.**

### *Залатыя словы.*

*Народ, што ў Царкве ня чуе свае роднае мовы, звычайна ня шануе і ня беражэ яе, як свайго найдаражэйшага скарбу.*

*Родная мова—гэта наймацнейшая падстава самастойнага жыцьця кожнага народу.*

*Праф. І. Огіенко.*

# ХРОНІКА.

Беларускія царкоўна-грамадзкія дзеячы атрымалі ад высокіх урадовых колаў запэўненьне ў тым, што іх імкненьні да зближэньня на грунце нацыянальным духавенства да народу і да зьдзейсьненьня выстаўленых у № 1 „Беларускае Зарніцы", як і іншых мэтаў будзе з боку ўрадовых колаў падтрымана.

Мэты гэтыя лічацца карыснымі для Царквы і веруючага народу.

Такім чынам, усе тыя, што глядзяць на царкоўны грунт у нас на Беларусі як на базу для захаваньня „да пары да часу" сваіх плянаў, нічога супольнага ня маючых з працаю чыста царкоўнаю, тыя чужынцы, для якіх і вера і беларускі народ маюць другараднае значэньне, а нацыянальнае адраджэньне гэтага народу зьяўляецца для іх варожым, — павінны зразумець, што іх спраціўленьне мэтам беларускага царкоўнага грамадзянства толькі больш балюча адаб'ецца на іх-жа саміх.

———

Зарэгістраваны Акружным судом у Вільні Статут Коопэратыву „Хатні Прамысл„. Урад коопэратыву шукае памешканьня пад краму. Працу ў гэтым напрамку Ураду коопэратыва трэба шчыра вітаць. Будзе яшчэ адна новая эканамічная пляцоўка, якая дасьць магчымасьць беларускаму вясковаму грамадзянству збываць свае рэчы хатняга вырабу па запраўднай іх вартасьці, а не за палову яе, альбо і таго менш, у рукі рожных спэкулянтаў. Апрача гэтага праз коопэратыў „Хатні Прамысл" будзе пашырацца распаўсюджаньне арыгінальных і запраўды мастацкі вырабляных беларускім насельніцтвам рэчаў. Прыгожасьць і хараство гэтых рэчаў вельмі зацікавілі прыезных на выставу ў Вільню грамадзян як з цэнтральнай Польшчы, так і з яе Заходніх Крэсаў.

Значны лік атрыманых на гэтай выстаўцы беларусамі за свае рэчы нагарод сьведчыць як аб прыгожасьці рэчаў хатняга вырабу, так і аб здольнасьці беларускага народу, які так самабытна і арыгінальна выяўляе сваю творчасьць.

———

У 1928—29 шк. годзе значна павялічыўся лік вучняў і вучаніц Віленскае Беларускае Гімназіі. Шмат вучняў паступіла ня толькі ў малодшыя клясы, але і ў старэйшыя.

Аднэю з прычын павялічэньня ліку вучняў, асабліва ў старэйшых клясах, зьяўляецца бязумоўна наданьне Гімназіі prawa publiczności.

Скончыўшыя Віленскую і Навагрудзкую гімназіі вясною 1928 г. і атрымаўшыя матуру ўсе цяпер паступілі ў Віленскі Унівэрсытэт.

## ЗЬМЕСТ.



Рэдактар-выдавец: сьвяшч. А. КОЎШ. Друк. Я. ЛЕВІНА Вільня, Нямецкая 22.